05/701

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага № 50 грошы.

19Ии
1977




Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Каралеўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на паўгоду — 2 зл. 50 гр., на 3 мес. — 1 зл. 50 гр.

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

1936 N1-2

## ЗЬМЕСТ:

# УСІХ! УСІХ!

Каму дорага існаваньне „Бел. Борці“, просім складаць ахвяры на Прэсавы Фонд!

— Найменьшая ахвяра будзе ўжо падмогай!

З маленькіх капель—складаецца вялікае мора.

**РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ.**

---

## Прыймаюцца складкі на 1936 год

НА АДЗІНЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК ПЧАЛЯРСТВА І МЯДОВА-ЛЕКАРСКІХ ЗЁЛАК

# „Беларуская Борць“

### СКЛАДКІ:

на год . . . . . 4 зл.

на паўгода. . . 2 зл.

на 3 месяцы. . 1 зл.

Камплет у 5 екзэмпляраў — на год 3.— зл.

„ „ 10 „ „ „ 2.50 зл.

Заграніцу — удая даражэй.

Чытачы, якія ўнясуць да 1 сакавіка 1936 году складку за год атрымаюць прэмію — 2 порцыі, а тыя, што ўнясуць падпіску за паўгода, 1 порцыю, насеньня мёдадаяў, варыва ці лекарскіх расьлін на выбар.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі** — ВІЛЬНЯ, КАРАЛЕЎСКАЯ ВУЛ. 3-8.

РЭДАКЦЫЯ АДЧЫНЕНА Ў АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ АД 10—14 ГАДЗ.

057701
1964 г.

# Беларуская Борць

Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

№ 1-2 СТУДЗЕНЬ — ЛЮТЫ 1936 г. ГОД III.

## ПРАЗ ВЕДУ ДА ГАСПАДАРЧАЙ КУЛЬТУРЫ.

Галоўным заданьнем грамадзкае аграноміі зьяўляецца паступовае палепшаньне мэтодаў гаспадараваньня, дзеля палепшаньня самой землеробскай гаспадаркі. Калі заданьне гэтае заўсёды павінна быць неадзоўным дзейнікам у жыцьці земляроба, дык тым балей павінны стасаваць яго ў цяжкіх варунках жыцьця — у варунках крызысу, асабліва ў невялікіх землеробскіх гаспадарках.

Сучасны гаспадарчы крызыс, які гэтак балюча адчуваецца землеробствам, асабліва вымагае стасаваньня ўсіх выпрабаваных і ўдасканаленых мэтодаў гаспадараваньня, усіх навін у галіне землеробскае веды, якія маглі-бы прычыніцца да палепшаньня землеробскае гаспадаркі і да павялічэньня яе зыскаў. Толькі гэтакім шляхам дробны земляроб можа ў сучасных варунках атрымаць што-небудзь за сваю мазольную працу і зьвясьці канцы з канцамі.

Перабудова землеробскае гаспадаркі на новых навуковых і рацыянальных падставах, увядзеньне мэтадаў інтэнсыўнага гаспадараваньня, палепшаньне мэтадаў самой працы, усё гэта вымагае, ад земляроба пэўнае веды, вымагае каб ён сачыў за поступам навукі, знаёміўся з усімі новымі досьледамі з тым, як гаспадараць іншыя народы, вучыўся ад іх і г. д.

Вымаганьне гэтае, якое на першы пагляд можа паказацца недаступным земляробу—селяніну, ня ёсць такім. Усё, што толькі можа цікавіць селяніна ў галіне землеробства, ён заўсёды лёгка і ў даступнай для сябе форме можа знайсьці і ў газэтах, і фаховых часопісах і ў розных танных кніжках, якіх шмат ёсьць па розных галінах землеробскае веды. Трэба толькі, каб гэтай кніжкай ці газэтай селянін мог карыстацца.

У сучасных варунках не заўсёды будзе даступна селяніну кніжка ці газэта. На перашкодзе гэтаму стаіць сталы недахоп грошаў, але гэтую бяду можна было-б перамагчы, купляючы кніжкі ў складчыну, або арганізаваўшы ў сябе на вёсцы бібліятэку.

Галоўнай перашкодай у карыстаньні кніжкай ці газэтай зьяўляецца тое, што кніжка гэтая не заўсёды даступна селяніну дзеля яго малаграматнасьці, а то і поўнае няграматнасьці. Гэта і ёсьць нашая вялікая бяда, прычына шмат якіх нашых няшчасьцяў. З гэтаю бядою мы павінны ўсе разам змагацца ўсімі спосабамі, каб толькі яе пе-

рамагчы. Бяз гэтае перамогі ня будзе поступу, ня будзе культуры.

У адносінах да асьветы наш беларускі селянін пастаўлены ў выняткавыя варункі. Польская школа, якая павінна вучыць беларускіх дзяцей у чужой, незнаёмай ім мове, ня можа справіцца са сваім заданьнем. Гэта прызнала і польскае грамядзянства. Аб гэтым піша шчыра і пасланка на сойм п. Пэлчынская (Газэта Польская 5.XII 1935). Аб гэтымжа гаварыла нарэшце і польскае вучыцельства. На зьезьдзе польскіх вучыцялёў у Вільні, які адбыўся ў сьнежні мінулага году, дырэктар польскае вучыцельскае сэмінарыі п. Матушкевіч шчыра прызнаецца, што пачаткавая школа ўжо цяпер зьяўляецца „сьляпой вуліцай", выйсьці з якой бяз спэцыяльнага хатняга давучаньня немагчыма. (Кур. Віленскі — 15.XII. 1935).

Беларуская школа, школа ў роднай мове, якая магла-бы прычыніцца да больш лёгкага і хутчэйшага ўспрыняцьця дзяцём навукі, нам не даецца. Тыя некалькі беларускіх і польска-беларускіх школаў, якія паўсталі пасьля школьнага плебісцыту 1927-28 году, зьніклі. П. Віленскі школьны куратар на нарадзе паслоў і сэнатароў між іншым сказаў, што беларускіх школ няма дзеля таго, што беларусы ня хочуць беларускае школы, а дамагаюцца школ польскіх. Хто і як бегэтага дамагаецца мы добра ведаем. Досыць прыпомніць толькі выступленьне нейкага п. Шантэра, які дамагаўся стварэньня адумысных лягераў для беларускіх дзяцей, каб учыць іх там і зразумела ня ў беларускай мове. І гэтакае выступленьне п. Шантэра было зьмешчана на старонках „Віленскага Кур'ера", а не якой небудзь эндэцкай газэты. Вось як выглядае гэтае дамаганьне беларусаў.

Але і гэта ня ўсё. Ня ўсе нашыя дзеці могуць трапіць і ў гэтакую школы. Істнуючыя школы ня могуць умясьціць усіх дзяцей школьнага веку. Школы і вучыцялі перагружаны да адказу, а як заявіў п. куратар у адным толькі віленскім школьным вокругу, у гэтым ужо годзе асталося паза школай каля 70 тысячаў дзяцей школьнага веку, і лік гэты ў наступным годзе яшчэ больш павялічыцца, бо ў зьвязку з акцыяй ашчаднасьцяў у дзяржаўным буджэце школьная сетка не павялічыцца.

Вось сумны малюнак варункаў, у якіх беларускае селянства здабывае пачатковаю асьвету, бяз якой немагчыма выйсьці з цяжкога гаспадарчага палажэньня.

Але, як ні цяжка, апускаць рук ня трэба. Асьвета і веда патрэбны, каб мець магчымасьць навучыцца будаваць лепшае жыцьцё, дык трэба іх здабыць.

Беларускі селянін, які плаціць усе дзяржаўныя падаткі нароўні з іншымі мае права дамагаца на кошт дзяржавы патрэбнае яму школы. Апрача ўсяго гэтага, права прыслугоўвае нам такжа паводле законаў Польскай Рэспублікі.

Злажэньнем дэклярацыяў на беларускую школу, Беларускі Народ выявіць сваю волю і гэтым пакажа, якой школы хочуць беларусы.

Але дабіваючыся роднае школы трэба памятаваць, што адна толькі школа ня дасьць патрэбнае асьве-

ты, патрэбнае веды. Пачаткавая школа, гэта толькі фундамэнт, бяз якога немагчыма будаваць культуру.

Сучасная школьная асьвета ня можа быць фундамэнтам пад нашу родную культуру. Дзеля таго, дабіваючысь беларускай школы, трэба шляхам хатняга навучаньня і давучаньня адначасна здабываць тую пачатковую веду, якой наш Народ ня можа атрымаць праз школу.

Хатняе навучаньне — рэч зусім магчымая. Усюды можна знайсьці граматнага чалавека, які павінен вучыць чытаць і пісаць няграматных. Для гэтага патрэбны толькі адпаведныя кніжкі, а гэта ўжо справа нашых курльтурна-асьветных арганізацыяў, якія аб гэтым ужо клапацяцца.

Далейшы шлях у здабываньні веды - самаасьвета праз арганізацыю бібліятэк, ладжаньне лекцыяў па розных галінах веды, выкарыстоўваньне завочных курсаў, якія арганізуюць нашыя культурна асьветныя арганізацыі. Граматны чалавек павінен папаўняць сваю веду, вучыцца жыць, гаспадарыць і г. д.

Трэба памятаваць, што асьвета і веда — гэта магутная сіла ў барацьбе з цемрай і нядоляй, і дзеля гэтага ўсе, каму дарагая будучыня нашага Народу, павінны выйсьці шчыльнымі радамі на барацьбу з цемраю за асьвету і веду, праз якія ляжыць шлях да лепшае будучыні.

**М Манцэвіч.**



Борць на сасьне ў Славічах на Палесьсі

(Са збораў М. Караленкі).

# Пчалярства

## Зімовая гаспадарка ў пчальніку.

Агульна прынята думаць, што пчалярскі сэзон пачынаецца вясною, а канчаецца супольна з іншымі работамі на полі, а перадусім, калі пчолы збяруцца ў клубок і пачнуць сваё адменнае жыцьцё. Прынята далей, што ў гэны час спакойнага жыцьця пчол, бортнік можа сядзець у сваёй хаце і занімацца ўсім іншым, толькі не пчалярскай гаспадаркай. Гэтак аднак ня ёсьць. Правільная зімоўка пчолаў і удзяржаньне іх у цэласьці да вясны, зьяўляецца самай важнай і адказнай справай і зарукай—будучага сэзону. Можна сьмела сказаць: якая зімоўка—такая пацеха з пчолаў вясною. Дрэнная зімоўка прычыняецца да аслабленьня пчаліных сем'яў, часта да іхняй згубы. Пчала, паводле аўтарытэтных бортнікаў, здольная толькі да абмежаванага ліку работы і калі гэна работа перавышае максімум яе натугі, утойжа час гіне. Калі некаторыя з пчолаў выжывуць, то будуць яны малаздольныя да веснавой работы, да расплоду і здабываньня корму для сябе і дзеткі.

Мы часта бачым сумнае зьявішча у сваім пчальніку вясной: сырасьць страшэнная, кучы апаўшых трупаў, хворыя пчолы на розныя хваробы і што горш вымершыя пні. Хто ў гэтым вінаваты, пчолы, ці бортнік? Бязумоўна—бортнік, бо ён ня ведаў, як прыгатаваць грамады жывых істот—пчолаў—да зімоўкі, а пасьля ня ўмеў іх даглядаць. Дык час ужо ўзыйсьці на запраўдную дарогу гаспадаркі, шкада нашага труду і жыцьця працавітай скрылатай жывёлкі. Шмат можна чытаць на гэту тэму ў розных кніжках і часопісах, шмат чаго гаворыцца, як даглядаць, гаспадарыць між нашымі бортнікамі. Трэ' аднак аддаць справядлівасьць, што тутака няма згоды, што чалавек, то іншая думка, то другая мэтода. Пачатковы бортнік чытаючы такія кніжкі запраўды ня ведае каму фактычна верыць. Што больш, гэныя рады, розных пчаляроў дыямэтральна супярэчны. Напрыклад, адзін рэкамандуе зімоўку толькі ў зімоўцы, другі ў пчальніку на свабодным паветры, іншы радзіць пабяліць столь у вульлі, а іншы яшчэ кажа, што пакінутая столь нат' шкодная для зімоўлі. Каб дайсьці да рацыянальнай гаспадаркі згоднай з правам натуры, трэба усёж такі мець нейкія крытерыі гэнай гаспадаркі, трэ' перад усім пазнаваць жыцьцё пчалінага клубка ў спыненай жыцьцядзэйнасьці зімою, трэ' разглядзіць што шкоднае, а што нармальнае і згоднае з прыродай пчалы. Усім гэта вядома, што пчолы з прыбліжэньнем зімы, збіраюцца ў клубок і спыняюць сваю дзейнасьць у полі і вульлі. Жыцьцядзейнасьць малее, аднак ня гіне саўсім. Пчолы далей патрабуюць ежы, вады і цяпла для падтрыманьня свайго жыцьця і энэргіі, аж да наступнага сэзону. Найцікавейшым зьявішчам быту клубка, зьяўляецца тэмпэратура. Пчолы ў цяжкіх зімовых абставінах самі рэгулююць цеплату ў сваім гняздзе. Натуральная тэмпэратура клубка ёсьць + 13,9° С. Пры такой тэмпэратуры пчолам ня прыходзіяца працаваць мускуламі дзеля прадукцыі

цяпла, а жыцьцядзейнасьць сям'і асягівае свой мінімум. Зімоўка пры такой тэмпэратуры зьяўляецца нармальнай, згоднай з пра амі прыроды. Аднакжа пчолы ў такіх варунках вельмі ўражлівыя на ўсе перашкоды гэнай нармальнай зімоўкі: холад, голад, шолах, крыкі і павышаная тэмпэратура (ў зімавіку) прычыняюцца да аслабленьня клубка, хваробаў і часта пагібелі. I так у нашым экспэрымэнтальным шкляным вульлі Дадант'а Блэтта № 17 правялі мы гэткі досьлед. У клубок пчолаў быў устаўлены тэрмомэтр, каторы стаў паказваць зімою 1934/35 году нармальную тэмпэратуру клубка каля + 14° С. Невялікі стук, шолах па двух сэкундах павялічваў цеплату клубка нат' да 30° С. Пчолы пачыналі голасна шумець, адзінкі бегаць па шыбах вульля і дабівацца да лёткі. Дзеля выраўнаньня стратэў энэргіі пачалі больш есьці запаснога мёду, адкрываючы большы лік чарак.

Калі шолах і стукі спыняліся, тэмпэратура клубка ізноў ападала да сваей нормы + 14° С. Аналягічная зьява паўставала ў вышейсказаным вульлі пры крапчэйшых маразох.

Вось такія анармальнасьці вельмі шкодныя для жыцьця клубка. Стрывожачыя пчолы ядуць больш мёду і гэтым перапаўняюць свае жалудкі і хварэюць на развальненьне, (нармальна пчала раз толькі ачышчае свой жалудак па зіме, вясною пры першым аблёце), за хутка канчае запасны мёд і пасьля гіне з голаду. Дык тэмпэратура клубка залежыць ад спакою і ад ваганьня тэмпэратуры ў вульлі.

Справа тэмпэратуры ў вульлях вельмі актуальная ў беларускіх бортнікаў. Найчасьцей вульлі робяцца з тонкіх дашчок, недакладна, вось так, як кожная іншая скрыня Поўна там розных меры дзірак і г. д.

У часе крэпкае сьцюжы сьценкі вульля настываюць, а нат' у нутры вульля тэмпэратура спадае да — 3° С. У такіх варунках быстра скапляецца вадзяная пара, сцякае яна на дно вульля і тут замярзае. Паўстаё тады двайная нябясьпека: 1) пчолы бароняцца перад холадам павалічваньнем сваей жыцьцядзейнасьці і спажыцьцём большай колькасьці мёду, 2) калі пчолы агледзяць замерзшы вылет, пачнуць асвабаджаць сабе выхад да чыстага паветра Але гэна праца будзе іх згубаю ад марозу — скасьцянеюць на ледавым дне вульля Лёд і вада зімой у вульлі ёсьць прычынай яго сырасьці, ад каторай плясьнеюць вульлі і рамкі, вашчыны, а самыя пчолы пачнуць хварэць на звычайную, або заразную нозэму.

Калі сырасьці ў вульлі будзе ня шмат, пчолы пачаткава будуць з ёю бароцца, зьлізваючы расу са сьценак, дна і рамак. Гэтым самым перапаўняюць жалудак вадой, каторая сьмяротна ўплывае на жыцьцё пчалы.

Хворая пчала, чуючы павышанасьць тэмпэратуры свайго арганізму, неспакойна бегае па вульлі, пасьля кідаецца ў вылет і там гіне.

Па сваёй пчалярскай практыцы рэкамандую ўсім не сеткаваць вылетаў на зіму, як гэта радзяць некатарыя папяровыя пчаляры. Гэта шмат прычыняецца да аслабленьня сям'і, бо пчала і зімою кантралюе свабоду вылету. Трэба толькі ў часе крэпкіх марозаў зменьшыць вылет, а, калі пацяплее, неадкладна павыкідаць усе закладкі і затычкі. Ад гарачыні пчолы церпяць ня менш, як ад холаду. Перадусім клубок пашыраецца, зьяўляецца характэрны шум. Пчолы пачынаюць адчуваць вялікую пэтрэбу вады, каторай што раз

меньш дзеля таго, што ў павышанай тэмпэратуры мёд слабей асымілюе вадзяную пару. Пчолы адкрываюць большую плошчу чарак запаснога мёду. Ізноў тут чакае пчалінуую сям'ю двайная нябяспека: 1) ад перапаўненьня жалудка мёдам цераз шуканьне вады, 2) са зьменай тэмпэратуры, мёд адкрыты на вялікай плошчы сільна пахланяе вадзяную пару; гэткім спосабам хутка кісьне, а гэта ўжо вядзе да заразнай хваробы. Зімоўля пры павышанай тэмпэратуры—самая рызыкоўная. Здараецца такжа часта, што бортнік, хочучы ацяпліць вульлі, затыкае ледзь ня саўсім усе вылеты. Дрэнна так рабіць. Ня толькі ня трэба затыкаць, але старацца, каб прыплыў паветра быў свабодны, а ў вульлі была добрая вэнтыляцыя. Вэнтыляцыю рэгуляваць зьмэньшаньнем, або павялічваньнем вэнтылятара паводле пагоды.

У вульлях, у каторых няма вэнтылятара, а ёсьць двайны вылет, ня трэба затыкаць верхняга. Дзе няма добрай вэнтыляцыі, там і здароўе пчолаў няпэўна, і часта бываем сьведкамі розных хваробаў, перадусім добра ведамага развальненьня. Калі паветра зьяўляецца неабходным кожнай жывёліне, то тым больш, масе пчол, цесна зьбітай у клубок. Дзеля таго, трэ' добра сачыць, каб вылеты былі вольныя, а пасьля сьнегавых ападаў, пераглядзіць свае вульлі ў пчальніку і засыпаныя вылеты зараз-жа адгарнуць. Ад ветру трэ' прыкрыць вылеты дошчачкамі. Апрача вышэй паказанага трэ' што два тыдні падслухіваць усе вульлі. Паводле самога слуху можна пераканацца аб патрэбах і жыцьці клубка.

Бойкі шум сьведчыць аб павышанай тэмпэратуры. або холадзе.

Нармальны шум ёсьць падобны да шолаху далёкай ракі. Пры лёгкім удары у вульлі пчолы энэргічна реагуюць звонкім шумам і зараз-жа сьціхаюць.

Пісклівы голас адзінокіх работніц даволі характэрны, быццам далёкі плач гавора, што ў вульлі нехапае мёду і пануе голад. Таксама, мо' трохі цішэй звіняць пчолы, калі загіне матка

Сцьвердзіўшы недахоп мёду у вульлі, трэ' неадкладна падкарміць галодныя пчолы кандай г. е. густым цестам з цукру і мёду, або самым густым цукрам, даючы падкормку з верху рамак пры до-

## „Спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду“.

*(Рэфэрат прачытаны 3/III 1935 г. на вечары прапаганды мёду).*

5. Вітаміны. Да апошніх часоў думалі, што дзеля ўтрыманьня жыцьця ў людзей і жывёлы хопіць толькі даваць ежу, маючую пяць галоўных частак: бялок, тукі, вугляводы, мінэральныя солі і ваду. Аднак вучоныя заўважылі, што жывёліна, кормленая вылучна чыста хімічнымі, вышэй успомненымі складнікамі, хутка марнее і гіне. Гэтай справай заняўся польскі вучоны Казімір Функ і даказаў, што некаторыя стравы маюць у сабе абавязкава патрэбныя дзеля жывога арганізму складнікі (часткі) якія ён назваў вітамінамі. Вітаміны гэта часткі ежы вельмі скамплікаванай будовы і вельмі чуткія на тэмпэратуру.

Склад хімічны вітамінаў яшчэ дакладна ня знаны. Цяпер знаем ужо вітаміны: A, B, C, D, E, F. і P. Вось што кажа доктар К. Функ: „Вітаміны зьяўляюцца так абавязкавы дзеля жыцьця, што наш арганізм абыйсьціся бяз іх ня можа

брым ацяпленьні. Лепш было-б у такім выпадку ўнясьці вульлей з галоднымі пчоламі ў якінебудзь цяплейшы будынак (толькі ня ў хату), там правесьці падкормку праз даўжэйшы час, старацца такжа трэба, каб дагледзіць усе вульлі ў пчальніку, каб розныя ворагі пчолаў, а перадусім мышы, некатарыя птушкі (дзятлы, жоўны, а нават верабьі, каторыя часта начуюць пад дашчачкай супроць вылету) ня шкодзілі і ня трывожылі іх.

Альшанка М.

*Вацлаў Попуцэвіч.*

*Ад рэдакцыі.*

Цесельскі ўважае нармальнай тэмпэратурай пчалінага клубка 10 — 12% С. — Ніжэй 10 С. пчолы касьцянеюць і пасьля 30 гадз. гінуць. Е. Філіпс і Дж. Дэмутс першыя знашлі, што найніжэйшая тэмпэратура клубка раўняецца 13,9° С. Яны цьвярдзяць, што калі сям'я ня мае чарвы і пчолы ня лётаюць, дык яны і не падымаюць тэмпэратуры вышэй 13,9° С. Калі паветра каля клубка пачне ахаладжывацца, дык пчолы, хочачы ўтрымаць цяпло клубка, пачынаюць вытвараць яго і такім чынам часам паднімаюць тэмпэратуру да 20,5° С. у клубе. Пры падняцьці тэмпэратуры ў клубе ад 13,9° да 20,5° С. пчолы зусім мала трацяць энэргії.

Е. Філіпс і Дж. Дэмутс кажуць, што пажадана, каб тэмпэратура каля клубка была на такім роўні, каб тэпмэратура клубца не падала ніжэй 13,9°С і не падымалася вышэй 20,5° С.


СЬВЕЖЫ НАСЕВАК

**Румянку лекарскага**

**(Matricaria Chamomilla)**

па цане:
за 100 грамаў—5 зл. 80 гр —
10 грам.—80 гр.
прапануе (бяз перасылкі).
Насенная гадоўля
Л. ВОЙЦІКАВАЙ
Каленія Віленская, вул. Весёлая № 30.


**Польская пчалярская часапісь „Bartnik Postępowy“ ў месяцы студні прыдбала 350 новых платных падпішчыкаў. — А мы?**

таксама, як бяз бялкоў і мінэральных соляў“.

Доктар Гурэцкі: „Пераканаліся, што наш арганізм, нават у працягу даўжэйшага часу можа абыйсьціся бяз некаторых падставовых частак ежы, напрыклад бяз вугляводаў, або тукаў, але ня мог-бы жыць не хварэючы бяз вітамінаў“. Ужо сьцверджана на тысячах досьледаў, што ежа без вітамінаў, ці бязвітамінавая, або авітамінавая прычыняецца да розных хваробаў.

І так недахоп:

1. Вітаміны А ці як яе называюць вітасмэарыны А (таму што знаходзіцца ў туках) прычыняецца дк хваро ы рагавістай паволочкі вока, званай xerophalmia, каторая, ня лечаная, канчаецца сьлепатой.

2. Вітаміны С—вядзе да цяжкой хваробы—шкорбут, які палягае на крыватоку з дзёснаў і іншых ворганаў.

4. Вітаміны D—затрымлівае разьвіцьцё і рост жывога стварэньня.

5. Вітаміны Е прычыняюцца да забурэньня у вапнёвай гаспадарцы, якая вядзе да хваробы дзяцей, знанай усім пад назовам „ангельскай хваробы“.

(Працяг будзе)

МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.

## Змысл нюху ў пчолаў.

Факт, што работніцы ня гледзячы на вялікую іх колькасьць у ваднын вульлі, пазнаюць нічым не адрожніваючыхся выглядам пчол з іншых вульлёў і што іх ня пушчаюць да сябе, але нават кідаюцца на іх падсунуў думку, што пчала пазнае адна адну па паху, каторы ў кожным вульлі іншы.

Прыроднікі здаўна стараліся даведацца ці ёсьць наагул і ў якой ступені разьвіты змысл нюху ў пчолаў.

Люббок, апіраючыся на сваіх даволі прымітыўных досьледах цьвердзіў, што пчолы маюць слаба разьвіты змысл нюху, бо ня могуць пачуць паху мёду і знайсьці яго нягледзячы на тое, што ён схаваны недалёка ад вульля і шмат пчолаў лётала каля гэтага мейсца.

Іншы аўтар (Бутталь - Рээпэн) кажа, што маладая пчала вылятаючы з вульля кіруецца галоўным чынам нюхам.

Грунтоўныя досьледы ведамага знатака пчолаў Фрыша, паказываюць таксама, што пчолы р зразьніваюць пахі.

Далей, ён-жа дасьледзіў, што пчолы здалёку кіруюцца колярам і што пах дзеіць толькі з блізка, але тады ўсё пачуцьцё паху перавышае пачуцьцё коляру.

Калі ходзіць аб ступень разьвіцьця змыслу нюху ў пчолаў, дык паводле Фрыша выглядае, што нюх пчалы больш кволы, чым нюх чалавека.

Цікава, што пах мёду знаходзячагася ў цяні, далёка меньш прыцягівае пчолаў, чым пах мёду знаходзячагася на сонцы. Выплывае гэта мусіць адтуль, што ад сонца пах мёду робіцца больш сільны. Але наагул пах мёду ня дзеіць так прыцягіваюча на пчалу, як пах кветак.

Можна яшчэ задаць сабе пытаньне, дзе знаходзяцца ворганы нюху?

І тутака аказываецца, што ворганы нюху памешчаныя на вусіках і калі пчале адарваць вусікі, тады аказываецца, што яна зьяўляецца ня здольнай да разрозьніваньня пахаў.

Паводле Бішоффа гэтых адумысловых ворганаў ёсьць вялікая колькасьць і гэтак нп. у маткі колькасьць іх даходзіць да 2000, а ў работніц да 6000.

---

М. ЯКІМЕЦ.

## Хваробы і ворагі пчолаў.

(працяг).

### В. Хваробы пчолаў дарослых.

Хваробы пчолаў дарослых існуюць ад непамятных часоў. Успамінаюць аб іх ужо Арыстотэль Пліні і Калюмельля. Больш дакладна і згодна з праўдаю пачынаюць апісваць вучоныя толькі у XVIII стагодзі. Прычынай хваробаў уважалі тады пераважна пэўныя гатункі мёду і пылку, а таксяма сырасьць і холад.

Хваробы дарослых пчолаў здараюцца часьцеў за хваробы чарвы, аднак-жа аб іх пчаляры менш пішуць і гаворацъ, а гэта дзеля таго, што хваробу дарослых пчолаў шмат цяжэй заўважыць, бо хворая пчала працуе да апошняй

хвіліны і памірае пераважна па-за вульлём. І таму пчаляр вельмі часта заўважвае гэтую хваробу ў той час, калі ўжо выратаваць хворую сям'ю не магчыма, або не аплачваецца.

Хваробы пчолаў бываюць аграмаднай сваёю большасьцю ў страватраўчым праходзе пчалы і таму ўважаю, што дзеля лепшага іх зразуменьня трэба даць кароткі агляд страватраўчага праходу пчалы.

## Страватраўчы праход пчалы.

Страватраўчы праход пчалы можам падзяліць на тры часткі:

1. Страваход, які пачынаецца губною падзьдзю, а канчаецца мядовым жалудкам, які мае форму мяшочка і служыць да перахоўваньня нэктару, мёду і вады.




**Страватраўчы праход пчалы.**

1—частка страваходу
2—мядовы жалудак
2—праўдзівы жалудак
4—тонкія кішкі
5—мальпігавы трубачкі
(паводле Бжуско-Гудэрскай)

2. Запраўдны жалудак, у якім адбываецца ўсё траўленьне спажытай ежы, мае форму даўгога пафалдаванага цыліндра. Пачынаецца ён вузкой трубачкай з таўстымі маючы шмат мускулаў сьценкамі, якія могуць корчыцца і зачыняць праход. У канцы запраўднага жывата маюць свой выхад каля 150 тоненькіх мальпігавых трубачак, якія выконваюць такую самую функцыю, як нырка ў чалавека і жывёліны.

3. Тонкія кішкі, якія ў канцы пераходзяць у так званую простую кішку, якая мае здольнасьць расшырацца і гэтым мае магчымасьць затрымліваць большую колькасьць адходаў, нават у працягу цэлай зімы.

Хваробы дарослых пчолаў таксама, як і хваробы чарвы можна падзяліць на незаразныя і заразныя.

Хваробаю незаразнаю страватраўчага праходу дарослае пчалы зьяўляюцца ляксы.

## Ляксы.

Як ведама пчолы ўлетку звальняюць свае жываты ў паветры— тады, калі ў іх кішках зьбяраецца даволі адходаў.

Зімою пчолы ня маюць магчымасьці звольніцца на двары і таму трымаюць адходы праз усю зіму да першага аблёту. Калі пчолы з якой небудзь прычыны спажываюць надмерную колькасьць мёду, або мёду горшага гатунку, ці сапсаваны пылок, дык у іх кішках зьбіраецца так шмат адходаў, што яны, ня маючы сілы, іх утрымаць, пачынаюць апарожнівацца ў вульлі, або вылазяць і апаражняюць свае жываты на сьценках вульля, або вылятаюць і гінуць ад марозу.

Сьвежыя адходы бываюць рэдкія і маюць пах сьвежага хлеба. Хворыя на ляксы пчолы бываюць вельмі неспакойнымі і кволымі, з поўнымі жыватамі.

Надмернае спажываньне мёду здараецца тады, калі стукам ці чым іншым турбуецца пчолаў у часе зімовага спакою. А таксама тады, калі вельмі рана пачне чарвіць матка, гэта бывае тады, калі пчолаў турбуецца, бо яны пачы-

наюць рухацца і падымаюць тэмпэратуру, а матка думае, што гэта ўжо вясна, або калі ў другой палавіне зімовага спакою здарыцца некалькі цяплейшых дзён, ці яшчэ калі вулей ня мае добрае вэнтыляцыі, і пчолы, каб не памёрла чарва спажываюць шмат мёду, каб утрымаць патрэбную тэмпэратуру.

За горшы гатунак уважаецца такі мёд, які быў зьбіраны са спадзі і такі, каторы вельмі хутка спукроўваецца і яшчэ такі, які не пасьпелі пчолы запячатаваць да зімовага спакою.

Апрача гэтых прычынаў выклікаючых ляксы трэба дадаць яшчэ: сырасьць у вульлі, за сільны працяг, слабы рой, дрэнная вэнтыляцыя, холад, духата, смага, страта маткі і г. д. Лячэньне ляксаў зводзіцца да зьнішчэньня прычынаў, якія выклікаюць гэтую хваробу. І так, калі прычынаю зьяўляецца дрэны мёд, трэба даць цукровага сыропу; калі турбуюць пчолаў мышы, дык трэба іх выгнаць, а пчолам даць магчымасьць абляцецца. Робіцца гэта ў цёплым цёмным пакоі. Калі пчолам душна, трэба больш адчыніць лёткі і г. д.

Хаця ляксы можна вылячыць ніішчачы прычыны, якія выклікаюць гэтую хвэробу, аднак жа найлепш зімаваць свае пчолкі так, каб яны не заваліся на пчальніку. Дзеля гэтага трэба ўпарадкаваць гнёзды і скончыць з падкормкаю ўжо ў пачатку верасьня, каб даць магчымасьць пчолам улажыць сабе гняздо і запячатаваць мёд. Мёд мусіць быць найлепшага гатунку. Трэба зімаваць раі сільныя са здаровымі і маладымі маткамі. Пчолы трэба гадаваць у цёплых вульлях з добраю вэнтыляцыяй. Каліж маем вульлі халодныя, зімаваць трэба ў зімоўках, якія пазваляюць утрымліваць сталую тэмпэратуру.

Трэба тут зацеміць, што хаця ляксы зьяуляюцца хваробаю незаразнаю і рэдка даводзяць рой да сьмерці, аднакжа трэба іх вельмі высьцерагацца. бо пчолы захварэўшыя вельмі слабеюць і не даходзяць да патрэбнае сілы, да галоўнага пажытку і вельмі лёгка могуць захварэць хваробамі заразнымі, якія могуць вельмі хутка вынішчыць увесь пчальнік. Але аб іх у наступным нумары.

(Працяг будзе).

## Ці гэта праўда?

Штодзеннаа прэса даносіць быццам скарбовыя ўлады на так званых „крэсах усходніх“ а зн. і ў нас, у Заходняй Беларусі, сьцьвярдзілі даход з вульля нэтто 20 зл., што пры сучаснай цане на мёд раўняецца 14 кг. мёду.

Гэта ў той часы, калі шмат дзе пчолы ня толькі што ня далі даходу, а нават не зрабілі сабе запасу на зіму і прышлося купляць цукар, а калі дзе й быў сякі такі збор, дык вульлей больш ня даў як 8 кг. мёду.

Гожа адзначыць, што такое ападаткаваньне змусіць пчаляроў да рабунковай гаспадаркі, што ў рэзультаце давядзе да абсалютнага яе знішчэньня.

Падаючы гэту зацемку просім нашых П. П. гр. падпішчыкаў паведаміць нас, ці гэта праўда? Нагул просім у падобных выпадках зьвяртацца да нас, апісываючы ўсё падробна, а мы з свайго боку зробім усё залежнае ад нас перад адпаведнымі ўладамі,

# Зелярства

## Зёлкі і арганізацыя іх збыту.

Абшары Заходняе Беларусі па свайму геаграфічнаму палажэньню ды прыродных і кліматычных умовах, як нельга лепей надаюцца для гадоўлі лекарскіх і прамысловых расьлін. Вучоныя ўжо даўно зьвярнулі на гэта сваю ўвагу і пару сот гадоў назад пры віленскім унівэрсытэце існавала нават адпаведная катэдра. Унівэрсытэт гэты і зараз зьяўляецца мейсцам навуковых досьледаў у галіне зелярства.

Апрача гадоўлі наша краіна вельмі багата таксама і рознымі лекарскімі і прамысловымі расьлінамі, якія растуць у дзікім стане. Нашыя сенажаці, балоты і розныя няўжыткі могуць даць вялізарную колькасьці розных зёлак, якія ў іншых краінах рэдка нават спатыкаюцца.

У сучасных умовах, калі зёлкавае лячэньне заваёўвае сабе ўсё больш правоў у афіцыяльнай мэдыцыне і выпіхае пакрыху лекі хімічнага паходжаньня, калі ў самой Польшчы спажываецца ў год каля 1 мільёну кіляграмаў розных зёлак, — да зёлкавай справы трэба пыдыходзіць сур'ёзна, як да справы, якая (ў сучасных цяжкіх варунках) можа даць заработак безработным вёскі.

Трэба яшчэ памятаваць, што не адна толькі Польшча зьяўляецца спажыўцом нашых зёлак. Зёлкі нашыя ў вялікіх колькасьцях вывозяцца таксама і заграніцу. Паводле дадзеных, якія абвешчываюцца ў газэтах, з Віленшчыны вывозіцца штомесяц каля 3000 кіляграмаў розных зёлак. Як падае фаховая прэса, апошнімі часамі нашымі зёлкамі пачынаюць цікавіцца і краіны, якія дагэтуль у нас ня куплялі. Адчыняюцпа магчымасьці прадажы ў Англію, Францыю. У лістападзе з Польшчы выслана першая пробная партыя ў Амэрыку. Усё гэта сьведчыць, што зёлкі адпаведна прыгатаваныя могуць мець збыт.

Дзеля гэтага сьмела можна сказаць, што зелярства можа стацца ў нас паважным дзейнікам у гаспадарчым жыцьці. Патрэбны толькі паважны падыход, умелае гадаваньне і зьбіраньне, адпаведнае прыгатаваньне тавару і арганізацыя збыту.

Здараецца праўда, што асобы, а нават і арганізацыі, маючыя зёлкі для прадажы, ня могуць знайсьці купца, але гэта бывае толькі ў тых выпадках, калі маюцца партыі, якія трудна прадаць у аптэкі. бо для іх завялікія, а для гандлю гуртовага замалыя. Але часьцей ўсяго здараецца гэта тады, калі тавар не адпаведна сабраны і прыгатаваны і не адказывае вымаганьням рынку.

Аднэй з прычынаў, якія таксама часта знеахвочваюць да зьбіраньня зёлак, зьяўляецца нізкая цана, якую плоцяць зьбірачам скупшчыкі. Разьбежнасьць цэн у пардажы зёлак у гурце і дэталі зьяўляецца праўда характэрыстычнаю рысаю ў гандлі зёлкамі, але і тут таксама можна знайсьці выхад. Зьбірачы і плянтатары не павінны прадаваць свайго тавару

скупшчыкам, якія перапрадаюць яго гуртаўнікам. Трэба старацца абмінуць ня толькі скупшчыка, але і гуртаўніка і прадаваць тавар беспасярэдня аптэкам, калі маюцца невялічкія колькасьці, а пры вялікшых— беспасярэдня фірмам, якія вывозяць яго заграніцу. Прадажа на вываз не даступна зразумела паасобным зьбірачам. Тут патрэбны ўжо соткі, а то і тысячы кіляграмаў. Але ёсьць рада і на гэтае. Зьбірачы і плянтатары злучыўшыся разам могуць даць і гэтакія колькасьці тавару. Тварэньне адпаведных арганізацыяў і зборных пунктаў можа быць карысным і з другога пункту гледжаньня. Тавар сабраны ў адным мейсцы можна адпаведна пасартаваць, спакаваць згодна з вымаганьнямі рынку і г. д. Усё гэта мае вялікі ўплыў на цану тавару.

У нашым беларускім жыцьці арганізацыі, асабліва гаспадарчага і гандлёвага характару, выклікаюць да сябе якоесьць асаблівае і дзіўнае адношаньне. Кожны хоча скарыстаць з арганізацыі нічога ў яе не ўкладываючы. Шмат хто думае, што калі існуе якая небудзь грамадзкая ці коопэратыўная арганізацыя, дык яна павінна абслужыць кожнага, хто толькі да яе зьвернецца, але ніхто ня хоча застанавіцца над тым, што гэтакая арганізацыя толькі тады зможа выканаць свае функцыі, калі будзе мець адпаведны капітал, а капітал гэты ў грамадзкіх і коопэратыўных установах складаецца выключна з сяброўскіх складак.

Існуе ў нас напр. Коопэр. Т-ва „Пчала", якое побач з пчалярствам, вядзе і аддзел зелярскі. Ня гледзячы, што т-ва існуе ад 1928 году, лікам сяброў пахваліцца ня можа. Дзеля гэтага ня можа пахваліцца яно і абаротным капіталам. Шмат хто, як з пчаляроў, так і з зьбірачоў зёлак, нават не зьяўляючыся сябрамі Т-ва зварочываюцца да яго з рознымі пытаньнямі, справамі і прапануюць для прадажы прадукты пчалярства, зёлкі, і бываюць вельмі незадаволены, калі т-ва ня можа ад іх купіць, пры гэтым гаворыцца на што такі коопэратыў, які ня можа нічога купляць. Тут мусім адказаць, што вінавата-ж у гэтым не само т-ва, а толькі тыя, што хочуць карыстацца з т-ва нічога ў яго не ўлажыўшы. Т-ва, як грамадзкая арганізацыя, само па сабе нічога апрача карысьці даць ня можа.

Што можа даць у галіне зелярства такая арганізацыя, як коопэр. т-ва, можна зрабіць вывад з наступнага.

Зёлкі, а асабліва кветкі, гуртаўнікі прадаюць звычайна ў два, а то і тры разы даражэй, чым плоцяць за іх зьбірачам і плянтатарам. Зарганізаваўшы зборныя пункты і адпаведны коопэратыў, як цэнтралю для збыту сабранага тавару, зьбірачы затрымаюць у сваіх кішэнях розьніцы цэнаў, якія раней траплялі ў кішэнь прыватнага прадпрыемцы. Далейшыя вывады з гэтага пакідаем чытачу.

Радзім усім, хто сур'ёзна думае заняцца зборам, або гадоўляю зёлак, задумацца над парушанымі пытаньнямі і зрабіць адпаведныя вывады. „Беларуская Борць" адводзячы на сваіх бачынах мейсца справам зелярства будзе, у меру магчымасьці, старацца дапамагчы сваім чытачам рознымі парадамі, як у адпаведных артыкулах, так і даючы адказы на іх запытаньні, падаючы запатрабаваньні рынку, арыентацыйныя цэны і г. д.

*М. Эміч.*

*Хочаш, каб „Беларуская Борць" выходзіла акуратна — прышлі падпіску.*

## Аб гадоўлі лекарскіх і прамысловых расьлін.

Зьбліжаецца пара, калі селянін павінен падумаць, што сеяць, каб атрымаць найбольш карысьці. Цэны на збожжа, бульбу і розныя корняплоды гэтак марныя, што гадаваць іх блізка што не аплаціцца. Трэба шукаць што небудзь іншае, што было-б больш карыснае. У гэтым артыкуле закрану справу гадоўлі лекарскіх і прамысловых расьлін, якія ў сучасных умовах могуць даць больш карысьцяў, чым, напр., збожжа і бульба.

Некаторыя з нашых чытачоў могуць падумаць нашто гадаваць тое, што расьце ў нас і так, бяз ніякага захаду. На гэта мушу адказаць, што нашыя абшары, хоць і багаты ў шмат якія расьліны, ужываныя як лекі, але гадоўля іх зьяўляецца дужа карыснай, бо ня толькі збор з дзікага стану, але і з гадоўлі не задавальняе існуючага запатрабаваньня, і шмат іх прывозяць да нас з заграніцы. Да такіх залічаюцца, напр., румянак і карэньне валерыяну.

Гадоўля лекарскіх і прамысловых расьлін вымагае вялікшае колькасьці рабочае сілы, асабліва пры зьбіраньні кветак і лісьця, але работа гэтая, як кожны разумее, можа выконывацца нават дзяцьмі і старцамі і дзеля гэтага не абцяжыць плянтатара вялікімі коштамі. Выдаткі будуць толькі на куплю насеньня, або флянсаў, якія трэба прызнацца, каштуюць досыць дорага.

Дзеля гэтага, прыступаючы да гадоўлі, ня трэба ніколі распачынаць гадоўлі на вялікую вагу. Наадварот трэба распачынаць яе на невялічкіх кавалачках зямлі, што зьвязана з меньшымі выдаткамі, а калі земляроб перакаваецца ў карыснасьці гадоўлі і прывучыцца да яе, дык плянтацыю можна і павялічыць, тым балей, што тады можна мець і ўласнае насеньне або флянсы.

Далей, ніколі ня трэба распачынаць адразу гадоўлі некалькіх расьлін. Гэта паменшае колькасьці паасобных гатункаў тавару, што ад'емна адбіваецца на справе прадажы. Трэба выбраць адну, або дзьве расьліны, на якія ёсьць вялікае запатрабаваньне, а пры гэтым яшче такія, каб збор і сушэньне іх не прыпадалі аднаачасна.

Пры выбары расьлін для гадоўлі трэба глядзець на тое, каб расьліна гэтая была адпаведнай для нашых кліматычных умоваў і глебы. Ніколі ня варта распачынаць гадоўлі расьлін, вымагаючых спэцыяльна цёплага клімату. Такая расьліна, нават ужо акліматызаваная, ня дасьць добрага ўраджаю і гадоўля яе ня будзе карыснай. Ня радзіцца таксама распачынаць гадоўлю на неадпаведнай глебе, бо і тут ураджай ня будзе адпаведным.

Наступнае, на што пачынаючы плянтатар павінен зьвярнуць сваю ўвагу, гэта адпаведнае прыгатаваньне зямлі. Усе лекарскія расьліны вымагаюць зямлі добра выробленай, мяккой і ачышчанай ад пырніку і іншага пустазельля. Зямля не ачышчаная дасьць і занячышчаны тавар, што ад'емна ўплывае на яго цану. Найлепей удаюцца лекарскія расьліны пасьля карняплодаў, на другі год па ўгнаеньні.

Трудна сказаць, што і дзе лепей гадаваць. Мясцовыя варункі маюць вялікі ўплыў на ураджайнасьць паасобных расьлін. Абмяжуемся дзеля гэтага пералічэньнем некалькіх расьлінаў, якія надаюцца да гадоўлі ў нашых кліматычных варунках, і збыт якіх, пры адпаведным прыгатаваньні, можна лічыць забяспечаным.

1. Румянак. лац. Matricaria chamamilla, польс. Rumianek zwykły, рас. рамашка, укр. Румянок Щирий, літоўскае—ramunelis. Аб гадоўлі румянку мы пісалі у леташнім годзе (гл. „Бел. Борць“ № 3 (8) сакавік 1935 г.) Да гэтага можам толькі дадаць, што гадоўля яго будзе аплачывацца яшчэ досыць доўга. Апрача рынку краёвага, запатрабаваньне якога зараз пакрываецца ўвозам з заграніцы (Вэнгрыя), румянак наш, пры адпаведным прыгатаваньні, можа пайсьці ў вялікіх колькасьцях і заграніцу.

2. Валерыян. лац. Valeriana officinalis, польск. Kozłek lekarski, рас. Валерьян, укр. Одолян лік, літ. ożelis.

Пасьля румянку, гэта наступная расьліна, гадоўля якой добра аплачваецца Валерыян дае ад 800 да 1600 кгр. сухога карэньня з гэктара. Цана 2.50 — 3 50 за кгр. Апісаньне гадоўлі валерыяну мы распачалі ў № 4—5 (9—10), за красавік—травень 1935 і закончым у наступным № „Бел. Борці“.

3. Кмін., лац. Carum Carvi, польск. Kminek albo karolek, рас. Тмин, укр. Кмин, літ. kemelis.

Насеньне кміну ўжываецца дзеля лекарскіх і прамысловых мэтаў вырабу кмінавага алейку. Шмат увозіцца з заграніцы, бо збор з дзікага стану не задавальняе запатрабаваньня рынку. Вялікае запатрабаваньне маецца ў Нямеччыне, Чэхаславаччыне, Аўстрыі. Пакуль што запатрабаваньні гэтыя пакрываюцца Галяндыяй. Наш кмін, як паказвае аналіза, ня горшы за галяндзкі, а часам і лепшы. Гэктар дае ад 600 — да 1400 кгр. Цана 1 зл. — 1 зл. 20 грош. за кгр.

4. Мята пятровая, лац. Mentha piperita, польск. Mięta pieprzowa, Мята, укр. Мята перцэва літ. meta pipirmete.

Гадуецпа дзеля лісьця, з якога вырабляюцца г. зв. мятныя каплі, і мятны алеяк, які ўжываецца таксама і для прамысловых мэтаў. 1 гэктар за 3 пакосы можа даць 1000 — 1500 кгр. сухога лісьця. Цана 1 зл. 10 гр. — 1 зл. 40 гр. за 1 кг. Запатрабаваньне вялікае, але гадоўля аплаціцца толькі там, дзе ёсьць блізка лябараторыя да вырабу мятнага алейку.

*М. М.*

---

## Што можна зьбіраць зімой і раньняй вясной.

У зімовую пару, калі не перашкаджае сьнег, можна зьбіраць ягады ялаўца, карэньне дзягелю і амялу.

З пачаткам вясны, як толькі растаіць сьнег і адмярзне зямля, а расьліны пачынаюць будзцца ад зімовага сну і пускаць сокі, распачынаецца пара зьбіраньня карэньняў, кары і пупышак.

Расьліны ў працягу лета бяруць з зямлі розныя спажыўныя часткі і адкладаюць запасы ў сваім карэньні. Найбольш гэтых запасаў карэньне маюць бязумоўна ў пэрыяд, калі расьліна іх ужо не спажывае, г. зн. ад восені, калі спыняецца рост расьліны аж да хвіліны, калі пачне выходзіць вясной новае лісьцё. У гэтую пару карэньня расьлін маюць у сабе найбольш лекарскіхъ вартасьцяў і дзеля гэтага збор іх прыпадае на восень і раньнюю вясну.

Вясной зьбіраецца карэньне аеру, малачаю, пырніку, мыдліку або панчошніку, дзеравянкі, лапуху, рачыкаў, падбелу, крапівы і бузіны.

У пэрыяд раньняе вясны адбываецца збор пупышак бярозы і са-

сны, а таксама распачынаецця збор кары крушыны і дубу. Кару можна зьбіраць тады, калі яна найлягчэй зьдіраецца з дзерава.

Прыступаючы да зьбіраньня розных частак расьлін дзеля лекарскіх і прамысловых мэтаў, трэба памятаваць, што тавар павінен быць сабраны ў адпаведную пару і дзеля гэтага раней, чым распачынаць працу трэба пазнаёміцца з тым, як, што і калі можна зьбіраць, як сушыць і перахоўваць і г. д. Даведацца аб усім гэтым можа кожны з лекцыяў завочных курсаў па збору і сушэньню зёлак, якія ладзіла Беларускае Коопэрат. Т-ва „Пчала“.

*М-ч.*

---

# ШАЎКАЎНІЦТВА

**МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.**

## Морва белая і яе гадоўля.

### Агульныя ўвагі.

Морвы належаць да сям'і марвовых *(Moraceae)*, да каторай апрача іх залічаюцца яшчэ некатарыя дрэвы і кусты, дзіка растучыя ў цяплейшых краях, ды гадаваныя дзеля тых ці іншых карысьцяў у халаднейшым клімаце.

Сапраўдныя морвы твораць род *Morus*, да якіх належыць каля дзесяці гатункаў, а з гэтых тры бываюць ужываныя як корм шаўкапрадам.

Гэта гатункі: чорная морва *(Morus nigra)*, чырвоная морва *(Morus rubra)* і белая морва *(Morus alba)*.

### Чорная морва *(Morus nigra)*.

Бацькаўшчына і гісторыя: Гатунак гэтай морвы паходзіць з Пэрсыі, а дзякуючы смачным пладам, якія дае, скора пашырылася, яшчэ перад пазнаньнем гадоўлі шаўкапрада, перш у паўдзённай Эўропе, а пасьля ў цэлай умяркаванай паласе нашай часьці сьвету. Старажытныя Рымляне гадавалі гэтую морву, а ў сьв. Пісьме няраз аб ей успамінаецца

Выгляд. Дрэва гэтае дасягае 10—12 мэтраў вышыні, галінкі мае грубыя, кароткія, пакрытыя цёмна-шэрай карой, прычым маладыя галінкі аброшшыя валаскамі.

Лісьцьцё сэрцаватае, цёмна-зялёнага коляру, з нізу крыху сьвятлейшае і пакрытае валаскамі. Бакі лістоў рэдка павырэзываныя, берагі іх няроўна зубкаваныя, а трончыкі кароткія і грубыя. Плады вялікія, яйкаватыя, выглядам прыпамінаюць ягады маліны, чорна-фіялетавага коляру з квасна-салодкім, малінавым сокам.

Плады. Ягады чорнай морвы (падобна як і белай) вельмі папулярныя ў Турцыі, Пэрсыі, Італіі і інш. краёх, дзе растуць гэтыя дрэвы. У ўсходнім Туркестане плады гэтага дрэва зьяўляюцца аднэй з галоўных спажываў насельніцтва. Жыхары гэтага краю зьядаюць марвовыя ягады ў вялікіх колькасьцях, летам — сьвежыя, а зімою суша-

ныя. У гадох голаду да ягад морвы дадаюць яны яшчэ недасьпелыя марэлі — (абрыкосы), што і зьяўляецца тады іх амаль выключнай, штодзеннай ежай.

Вымаганьні. Морва чорная вымагае добрай глебы. Любіць больш цёплыя ваколіцы.

Чорная морва як корм. У даўных часох ужывалі яе ў Эўропе, як корм вусеніцам шаўкапрада, але сяньня, апрача некаторых паўдзённых краёў (як нп. у некаторых мяйсцох Гішпаніі), цалком заступіла яе белая морва. Прычынай таго зьяўляецца, што лісьцьцё гэтага гатунку распушчаецца пазьней, чым белай морвы і што яно шурпатае і цьвёрдае, а гэтым самым цяжкое да яды вусеніцам, галоўным чынам у першых часох іх жыцьця. Ужо пасьля чацьвертага ліняньня вусеніцы добра могуць яго есьці, але дзеля таго, што склад іх ня ёсьць вельмі пажыўны, дык вусеніцы кормленыя лісьцём чорай морвы, даюць меньш шоўку; так, зусім зразумеля, што белая морва, ня маючы гэтых недахопаў, сапхнула чорную морву да ролі дэкаратыўнага і садовага дрэва.

Адмены. Існуюць розныя адмены чорнай морвы, з каторых найважнейшыя будуць: *Morus nigra laciniata, M. n. vera, M. n. vesnorius i M. n. sicula*.

## Чырвоная морва *(Morus rubra)*.

Морва гэтая расьце ў Паўночнай Амэрыцы, ад Канады да Мексыкі. Лісьцё яе пакрытае белым пухам, падаўгавата-круглае, часам 2—3 пялёсткавае, пры аснове сэрцаватае, з краямі востра зубкаванымі. Плады чырвоныя з чорным адценкам.

Дзеля таго, што яна ў нас (як і наагул у Эўропе) ня сустрэкаецца зусім, дык і ня будзем над гэтым гатункам затрымлівацца.

## Морва белая *Morus alba)*.

Назовы. Аргінальнага беларускага назову гэтага дрэва ня маем і нашая „белая морва“ (падобна як і польская „морва бяла“) паходзіць з натуральнага лацінскага назову: *Morus alba*[1]).

Літоўцы яе завуць Шількамэдіс балтасіс, а расейцы Тутовым деревом або шелковіцей белой.

Старадаўні рымскі філязоф Пліній называў морву „наймудрэйшым дрэвам“, што сьведчыць аб зразуменьні ролі, якую адыгрываюць плянтацыі морвы, а гэтым самым і шаўкаўніцтва ў гаспадарчым жыцьці некатарых народаў

## Бацькаўшчына і гісторыя.

Бацькаўшчынай морвы зьяўляецца Кітай адкуль яна дасталася Туркестанам, Пэрсіяй і Закаўкаскімі краямі,—у Еўропу, на Балканьскі паўвостраў, яшчэ ў VI стагодзьдзі за панаваньня ўсходня - рымскага цара Юстыніяна (527 565). Адтуль пашырылася далей у Грэцыі, пасьля дасталася у Сыцылію, дзе нават шаўкаўніцтва дайшло з часам да высокага роўня (па 1146 г.)

У Гішпаніі, дзякуючы арабам, шаўкаўніцтва было ўведзена ўжо ў X стагодзьдзі.

З Сыцыліі ў XIV ст. шаўкаўніцтва перайшло на поўнач у Італію, Францыю і Швайцарыю.

У XVI пачалося ўводзіцца ў Нямеччыне, а ў XVII і XVIII стаг. у далейшых эўрапэйскіх краёх.

У Беларусі морва белая была ведамай ужо пад канец XVIII стагодзьдзя. У пачатках XIX стаг. былі ўжо даволі вялікія плянтацыі гэтых дрэў у Горадзеншчыне, Віленшчыне і Міншчыне.

---

[1]) Ад гэтага дрэва (шмат плянтацый каторага было на паўвастрове Пэлапанэзе (Грэцыя), адна з краін узяла нават сабе назоў—„Морэа“.

Шмат морвавых плянтацыяў было зьнішчана і толькі ў апошніх часох разам з ростам зацікаўленьня шаўкаўніцтвам нашымі гаспадарамі, можна заўважыць і шмат новых гадоўляў морваў.

## Апісаньне белай морвы.

Морва белая дасягае 18 м. вышыні. Кару мае сьветла-шэрую, старэйшыя дрэвы цямнейшую, часам крыху іржавую, моцна патрэсканую.

Маладыя галінкі простыя, ценкія, пакрытыя валаскамі.

Лісьцё сьветла-зялёнага коляру, падысподам сьвятлейшае; мяккое, гладкое, бліскучае, яйкаватай формы, пры аснове нясымэтрычнае, часам сэрцаватае. Берагі лісьця зубкаваныя.

Часта некаторыя адмены маюць на адным дрэве ці нават на аднэй галінцы лісьцьцё розных формаў.

Плады гэтага гатунку белыя, чорныя, ружовыя, сьветла-жоўтыя або філятовыя, на даўгіх хвосьціках; маюць яны ў сабе шмат цукру, але смак іх пераважна прытарны, некаторыя толькі адмены маюць ягады кіславатыя.

Морва белая належыць да дрэў вытрывалых на маразы.

## Географічнае пашырэньне.

Морва белая расьце ў Азіі, Паўночнай і Паўдзённай Амэрыцы, Афрыцы і Аўстраліі. У Эўропе сустракаецца амаль усюды аж да $64^0$ географічнай шырыні. У усходняй Эўропе мяжой яе пашыреньня зьяўляецца лінія, якая ідзе да Ленінграда ў напрамку паўдзённа-усходнім да Каспійскага мора, абымаючы Маскву і Саратаў.

## Межы пашырэньня морвы і гадоўля шаўкапрада.

Ня ўсюды аднак-жа на поўначы, дзе можа расьці морва, можна гадаваць шаўкапрадаў.

Межы гадоўлі шоўкапрадаў значна меншыя за межы пашырэньня морвы.

Прычынай таго зьяўляецца кароткі вэгэтатыўны пэрыяд у паўночных мяйсцовасьцях, у часе каторага пасьля абрэзаньня галінак, або абшчыпываньня лісьця, маладыя галінкі не пасьпеюць добра разьвіцца, зьдзервянець і таму зьмярзаюць. Адзін аўтар кажа, што морву можна ўжываць для гадоўлі шаўкапрадаў у мяйсцох, дзе сярэдняя цяпліня зімы ня ёсьць меншай як - 15°C і дзе прымаразкі веснавыя бываюць рэдкімі, а цепліня ў працягу трох месяцаў (ліпня, жніўня і верасьня) па зборцы лісьця з дрэва не спадае ніжэй 12,5° С.

У Беларусі сярэдняя цяпліня зімы не пераходзіць — 7° С, а і даўжыні вэгэтатыўнага пэрыёду патрэбнага дрэвам па зборцы лісьця хапае, бо гадоўля вусеніц шаўкапрада ў нашых абставінах адбываецца менш больш ад палавіны траўня да канца чэрвеня (32 дні). Тады па зборцы лісьця маем яшчэ тры месяцы - ліпень, жнівень і верасень, у часе каторых цяпліня ёсьць звычайна вышэйшай, чым 12,5° С. Толькі крыху можна мець засьцярогаў да паўночных мяйсцовасьцяў Беларусі, дзе як напр. ужо ў ваколіцах Вільні сярэдняя цяпліня верасьня мае 12° С.

Але ёсьць і на гэта рада, у такіх мяйсцох ня трэба абрэзываць галінкі, але зрываць з дрэваў толькі лісьцё, а гадоўлю шаўкапрадаў старацца скончыць ужо ў палавіне чэрвеня, што дазволіць тады прадоўжыць вэгэтатыўны пэрыяд па зборцы лісьця.

(Далей будзе).

**ЁСЬЦЬ запатрабаваньне**
на чысты ПЧАЛІНЫ ВОСК
у кожнай колькасьці.
Пробкі і цану просім слаць у рэдакцыю „Беларуск. Борці“ пад „Воск“.

# Садоўніцтва і агародніцтва.

## Зімовыя і веснавыя працы ў садзе.

Жаль глянуць на нашы садкі і садочкі: дрэвы пакрыўляныя, абросшыя ваўкамі, атожыльлем, у кароне гушчар, як у пушчы, сук абцірае сук, галінка шаруе галінку, а ў летку чарвякоў, чарвякоў! гусьвіцаў ды розных шкоднікаў на дрэвах аж кішыць. Гаспадар-жа ходзіць сабе па садзе, думае, разважае, цярэбіць патыліцу і ў рэшце наракае на сваю долю. І як не клясьці? Чаму ў дварэ (разам садзілі) дрэвы ўжо трэцьці год як родзяць, а яблыкі, яблыкі—вялікія, прыгожыя, чысьценькія, а ў яго было па некалькі яблыкаў на дрэве летась і тыя як печаная бульба. Што рабіць? Сусед кажа: запусьці, братка, гніль у дрэва, як гэта я зрабіў. загані ў ствол таўсты цьвек і ўвідзіш, пачнуць радзіць адразу, але ён ня можа адважыцца. Як — жа гэта ў жывое дрэва гнаць цьвек? Яно—ж можа ссохнуць. І слушна. Чаму - ж дрэвы ня родзяць? Не дагледжаны, справа ясная. Пасадзіўшы фруктовыя дрэвы, трэба старанна даглядаць, тады яны ў сваю пару пачнуць радзіць і даваць добрыя фрукты. Фруктовыя дрэўцы ці саджаныя ў восень ці вясной (як садзіць фруктовыя дрэвы дамо ў наступным нумары) трэба абрэзаць. Абрэзаць трэба вясной, зараз-жа пасля пасаджэньня. Той парой абразаюцца дрэўцы і пасаджаныя ў восень. Добра разьвіты шчэп павінен мець шэсьць, прынамся пяць галінак: адну найкрапчэйшую, растучую проста ў гару ад пня, так званы „праваднік“ і чатыры, пяць галінак разсходзячыхся ў розныя бакі. Гэтыя галінкі трэба скараціць. Скарочываюць іх дзеля ўтрыманьня раўнавагі. Пры выкопываньні шчэпаў са школкі карэньне скароцілася і дзеля гэтага ня зможа даць у цэласьці адпаведных сокаў і спажывы ўсяму дрэўцу. Калі ж мы адпаведна да скарочаньня каравёў скарацім і галінкі, тады ўтрымаем раўнавагу. Карэньне зможа цалікам засіліць усё дрэўца; дрэўца ня будзе хварэць і адразу прымецца, апрача таго скарочваючы дрэўца, мы яму даём адпаведную форму, што таксама вельмі добра ўплывае на разьвіцці дрэўца і ў будучыні на ўраджай. І так маладое дрэўца пасаджанае вясной ці ў восень абразаем. Робіцца гэта так: праваднік скарочваем на 50—60 цм., тры ніжэйшыя галінкі на адну трэцьцюю частку і дзьве вышэйшыя амаль не на палову, гледзячы, каб гэтыя галінкі былі абрэзаны пад лінію, г. зн. каб адна за адну ня был і вышэйшыя, а праваднік-жа выставаў над ім больш меньш так, як ён выставаў над вышейшымі галінкамі і да фармаваньня кароны. Рэзаць трэба над самым вочкам, з малым укосам, а ня вышэй і ня сярод вочка, бо ў першым выпадку астанецца „чоп“ які ссохне, а ў другім ссохне і само вочка, а з ей галінка да ніжэйшага вочка. Калі-б дрэўца мела больш, як шэсьць галінак, дык рэшта, зразумелая рэч, слабейшыя, трэба зусім выразаць, бо з іх карысьці ніякае ня будзе, а толь-

кі дарма будуць цягнуць сокі з дрэва.

У маладым садзе нельга сеяць збожжа, кармовых траваў, а толькі можна садзіць асыпныя, пад якія трэба добра палажыць натуральнага навозу. Найлепш аднак зямлю ў маладым садзе трымаць да паловы лета пад папарам, а пасьля засеяць лубінам ці чым іншым на зялёны гнои і ў восені загараць.

Бягуць гады, маладыя дрэўцы растуць, таўсьцеюць самі, таўсьцеюць іх сукі, разрастаюцца і гусьцеюць кароны, кара трэскаецца, паўстаюць шчэлкі, шчэлачкі, а ў шчэлінах розныя шкоднікі і г. д.

Каб карона ня гусьцела, трэба яе прасьветліваць, гэта значыць выцярэбліваць лішнія сукі і галінкі ды нішчыць ваўкі. Прасьвятленньe ці прарэджываньне кароны трэба рабіць у нас у сакавіку, калі яшчэ дрэва ня пусьцілі сокаў і ўжо няма вялікіх маразоў. Прасьветліваньне робіцца з мэтай палягчэньня доступу паветра і сонечнага сьвятла як да саміх галінак, так і да пладоў, каторыя бяз іх ня могуць нармальна расьці і разьвівацца. Да абрэзываньня сукоў патрэбны востры агародніцкі нож, агародніцкая пілка — нажоўка і сэкатар.

Прасьветліваючы карону перадусім вырэзываем ея сукі і галіны: а) вісячыя нізка над зямлёй, б) сухія, в) паламаныя, г) скрыжаваныя адна з другой, а перадусім ваўкі, дзе б яны ня былі, ды яшчэ так званыя вілы. Усе гэтыя галіны трэба выразаць зусім апрача скрыжаваных ды вілаватых. У скрыжаваных ці вілаватых вырэзываем адну галіну слабейшую ці хворую, а другую пакідаем, ці калі дрэва за густое скарочваем над адным з кароценькіх сучкоў з таўстой пышкай.

Вырэзываць галінкі і сукі трэба ў мейсцы так званым парсьцёнкам, просталежна ў кірунку галіны пры яе насадзе. Таўстыя сукі трэба спачатку падпілаваць зьнізу, а пасьля ўжо пілаваць згары, бо калі мы будзем адразу пілаваць згары, дык сук можа адшапіцца і зрабіць вялікую рану ў дрэве.

Нельга адпіловываць ані ніжэй пярсьцёнка, бо тады будзе вялікая рана, ані вышэй, бо тады астаўшаяся частка без даплыву сілаў ссохне, пачне гніць і створыць дуплё ў дрэве. Па адпілаваньні галінак берагі ран трэба добра выгладзіць нажом і замазаць агародніцкай масьцю.

У сакавіку трэба дрэва выскрабаць і пабяліць.

Скрабуць толькі старыя дрэвы, у каторых патрэсканая кара, а скрабуць дзеля таго, што ў шчылінах кары хаваюцца на зіму розныя шкоднікі. Саскрабанную кару трэба сабраць і спаліць. До скрабаньня ёсьць спэцыяльныя скрабачкі, але, той хто яе ня мае, можа да гэтага ўжыць матыку з шырокім лязом ці проста кусок старога жалезнага абруча, у каторым загінаем абодва канцы, робячы такім чынам нешта падобнае на стружок, сярэдзіну крыху паклепім, і маем скрабачку. Скрабём толькі патрэсканую кару зьверху, стараючыся ня рабіць задзёраў да зялёнага. Абскрабаці трэба ня толькі самое дрэва, але, калі і на суках кара патрэскаўшыся, дык і сукі! Апрача саскрабаньня кары, трэба яшчэ дрэва абчысьціць ад моху.

---


Беларускае Коопэратыўнае Таварыства

**ПЧАЛА**

Вільня, Каралеўская вуліца № 3-8

прымае воск дзеля пераробкі на ВУЗУ.

Воск мусіць быць чысты без дамешкі і не прыпаляны. Ад чыстага воску адыходзіць на абсалютную ачыстку 2%, чым воск бруднейшы тым больш адлічаецца на ачыстку.

Цана пераробкі 1 зл. 30 гр. за к., або ½ воску.

Перасылка за кошт закашчыка.

Ачысьціўшы так дрэва, трэба яго пабяліць. Бяліць трэба вапнай з глінай (будзе лепш трымацца) дадаючы 10% рашчыны карболіны. Карболіна дадаецца дзеля абеззаражываньня дрэва і яго сукоў.

Добра яшчэ пасьля бяленьня спрыскаць дрэва 5% рашчынай карболіны з мэтай зьнішчэньня яечак розных шкоднікаў.

Калі ў леташнім годзе ва пладох былі плямы ці яблыкі гнілі на дрэвах, то дрэва трэба вясной апрыскаць каліфорнійскай жыжкай прынамся два разы: першы раз, калі начнуць лопацца пыпушкі цьвету, калі паказваюцца першыя пялёсткі, але кветкі яшчэ не распусьціўшыяся, другі, як сад перацьвіціць, кветкі адпадуць, але ў завязі яшчэ на іх адчынены. У гэтых выпадках ужываецца рашчына каліфарнійскае жыжкі ½%-вая.

*Антон Войніч.*

---

# Перад вясной.

Хаця яшчэ падае сьнег і мароз сьціскае зямлю, нам ўсёж-такі, трэба помніць аб недалёкай вясьне і мець усё прыгатаванае, каб, як толькі прыдзе пара, безадкладна ўзяцца за працу.

Пры нашым малазямельлі. пры маленькіх агародчыках найважнейшае тое, каб якнайлепш выкарыстаць кожны загончык, кожны кусочак зямлі; каб на гэтай зямлі пасадзіць і выгадаваць усё, што нам і вашым дзецям найпатрабнейшае. Трэба яшчэ мець на ўвазе, што мала пасадзіць і выгадаваць, але мусім таксама старацца, каб сабраць якнайбольшы і якнайлепшы ўраджай.

Мала хто разумее, якое вялікае значэньне для будучага ўраджаю мае выбар насеўку. Насевак мусіць быць належна сабраны і перахаваны. Перехоўваць трэба ня грубым пластам і ў сухім мейсцы. Добры насевак мусіць мець адпаведны для дадзенай расьліны коляр, ня можа быць тухлым, заражаным, або папсаваным якімі небудзь шкоднікамі.

Ня можна дапускаць, каб загоны оставаліся пустыя, або напалову пустыя таму, што агароднiна „не абышла“. Некаторае насеньне неабходзіць добра тады, калі яно позна сабранае, або перасьпелае, або зноў сабранае зарана Неапаведнае перахаваньне таксама мае вялікі ўплыў на жыцьцёвую сілу насеўку.

Хочучы мець пэўнасьць, што пасеяная агароднiна напэўна абыйдзе і тым самым праца наша не прападзе дарма, найлепш насевак, які маем ці то сваей гадоўлі, ці астаўшыся ад леташняга году, цяпер ужо выпрабаваць. Зрабіць гэта вельмі лёгка.

Трэба ўзяць меньшую ці большую міску (залежна ад ліку гатункаў насеўку) напоўніць яе чыстым жоўтым пяском . зьліц яго добра вадой. Паверхню пяску дзелім трэсачкамі на маленькія гранкі і на кожную кладзем па 10 зярнятак насеўку; (калі ёсьць мейсца можна класьці і па 100 зярнятак тады проба будзе яшчэ пэўнейшая). Міску з пакладзенымі зярнятамі накрываем шыбінай і ставім у цёплым мейсцы. Пасьля некалькіх дзён насеньне начынае пускаць расточкі Па ліку прароснага насеньня пазнаем ці яно добрае, ці не.

Клопат невялікі, а затое будзем мець пэўнасьць што насевак варты і ня будзем рызыкаваць сеючы яго на гародзе.

*Л. В.*

# АГАРОД.

Невялікі агарод, які мае кожная гаспадыня каля сваей хаты, мусіць быць, так выкарыстаны, каб даў як найбольшы лік здаровага ды смачнога варыва на круглы год.

Дзеля гэтага трэба зьвярнуць увагу перадусім на тое, што як і ў полі, так і на агародзе павінен быць захаваны падзел — пладазьмен.

Нёмагчыма сеяць усё разам: на адным загоне і буракі і шальбабоны (фасоля) і агуркі, а ўсё падсеена макам-самасеям. Трэба памніць, што кожнае варыва патрабуе іншых варункаў, іншага ўгнаеньня. Агуркі, напрыклад, вымагаюць добра ўгноенай зямлі, рэдкага пасеву, адкрытага сонечнага мейсца і шмат вады, у той час, як шальбабоны могуць расьці на горшай зямлі, а ад лішняй вільгаці гніюць.

Найлепш кожнае варыва сеяць на асобным загоне, тады найлягчэй кожнаму даць адпаведны дагляд. Асабліва трэба высьцерагацца засьмечываньня агароду макам самасеям. Мак мае даўгое і грубое карэньне, якім цягне з зямлі вельмі шмат спажыўных сокаў з крыўдай іншага варыва, а карысьць ад яго дробненькіх зярнят так невялікая. Лепш узяць адзін, ці калі ёсьць мейсца — і больш добра ўгноеных загонаў і пасеяць добрага маку, які дае вялікія галоўкі з вялікім лікам буйных зярнят. Сеяць найкарысьней радамі і як ўзойдзе — перарваць дзе густа, каб кожнае каліва свабодна разрасталася.

Немалое значэньне мае выбар насеўку. Трэба сеяць толькі гатункі найлепшыя, найсмашнейшыя, бо яны будуць найкарысьнейшымі для нашага здароўя. Замест белых (кармовых) буракоў, якія бачым на вясковых гародах, сеяць буракі цёмна чырвоныя — Эрфурцкія, даўгія (г. зв. гаспадарскія). Растуць яны вялікія, салодкія і дзеля гэтага спажыўныя. — Яшчэ лепшыя ды саладзейшыя, толькі невялікія буракі Эгіпскія. плоскія.

Морхва адна з найлепшых — Нантэйская паўдоўгая; чырвоная з тупым канцом.

Шальбабоны вельмі добрыя высокія, тычныя. пад назовам „Ясьска“. Адпорныя на халады і дажджы. Даюць добры ўраджай. Струкі маюць вялікія, з белым надта буйным зярнём.

Вельмі было-б карысна, каб нашы гаспадыні садзілі хоць пакрысе пятрушкі (цукровая кароткая — самая раньняя). Пятрушка дадае смаку стравам такім напр. як булён, крупнік і г. п., а таксама няраз бывае патрэбнай, як хатняе лякарства. Усходзіць яна вельмі доўга, дзеля гэтага трэба рана сеяць, добра таксама на пару дзён перад пасевам намачыць насень-

## Пад увагу нашым супрацоўнікам і карэспандэнтам.

Рэдакцыя „Б. Б“. просіць усе стацці і карэспандэнцыі пісаць чарнілам, на адным баку паперы, выразна і астаўляць з боку мейсца дзеля неабходных паправак.

— За кожную працу адказвае сам аўтар.

— Рэдакцыя адказывае лістоўна толькі тады, калі атрымае паштовы значок на адказ.

не пятрушкі, завязаўшы ў рызінку, у вадзе.

Аб гатунках агуркоў ды цыбулі, гаварыць ня варта, бо яны заўсёды будуць добрыя, калі іх добра даглядзець. Трэба толькі ўспомніць аб капусьце. Варта садзіць і пасьпешку і зімовую. — З першых, найлепшая, найранейшая „Слава“; з зімовых-жа—Брунсьвіцкая — дае вялікія, вельмі сьціслыя галоўкі, белыя, з маленькімі качарыжкамі.

Шчыра радзім нашым гаспадыням прыдбаць добрага гатунковага насеньня. Выдатак гэты аднаразовы, бо надалей можна лёгка садзіць гэтыя гатунковыя высадкі ў сябе і мець свой насевак.

Шмат якое, высокаякаснае па сваей спажыўнасьці варыва ня мае яшчэ застасаваньня ў нашым вясковым жыцьці. Дык прынамсі тое, што ўжываецца, няхай будзе якнайлепшага гатунку.

*Л. В.*

# З чужога жыцьця і прэсы.

## Нозэма ў Саветах.

Савецкая пчалярства падобна як і нашае, вельмі церпіць ад хваробы т. зв. н о з е м ы, выкліканай бактэрыямі нозенатозамі. Досьледы нп. у Горнай Шоры выказалі што з агульнай колькасьці пнёў — 55,6%, ці 66,2%, або нават 93%! заражаных нозэмай. Наагул 65% пнёў тае акругі выказала вялікае заражаньне гэтай хваробай, а толькі 8,7% абсалютную здаровасьць.

Да таго сумнага стану пчальнікоў прычынілася не зьвяртаньне ўвагі пчаляроў на якасьць і колькасьць зімовых запасаў, на перазімоўку пчол, а найбольш — нястача элемэнтарнай веды пчаляроў аб хваробах пчол і спосабах змаганьня з імі.

„Пчеловодство“.

*М.*

## Зьезд „Ц.З.П.“.

7 Сьнежня м. г. у Варшаве адбыўся першы зьезд дэлегатаў а „Centralnego Związku Pszczelarzy Rzeczypospolitej Polskiej“.

Зьезд меў характар арганізацыйны „Цэнтральны Звіонзэк“ мае на мэце згуртаваць усе існуючыя ў Польшчы пчаларскія саюзы, каторыя на абшары найменьш аднаго ваяводзтва маюць аддзелы ў большасьці паветаў. Адной з важнейшых задач „Ц. З.“ на 1936 г. мае быць заарганізаваньне пчаляроў у ваяводзтвах, дзе да гэтага часу няма пчаларскіх арганізацыяў.

„Бартнік Постэнповы“.

*М.*

## Пчолы бяз жыгала.

Слаўны ангельскі падарожнік прошлага стагодзьдзя—Давід Лівінгстон, у кніжцы „Падарожа па Замбезі і яе прытоках“, успамінае аб цікавых пчолах, якія ён бачыў пры ў току ракі Чобэ (Афрыка). Пчолы гэтыя вельмі маленькага росту, званыя першабытнікамі „м о а н д і“ або „к о к о м о ц а н“ — ня маюць жыгала. Мёд сабраны імі прыемна-араматычны з лёгка кіслым смакам: Пчол гэтых лёгка пазнаць па звычаю зыканьня навокал вачэй і казытаньня скуры цела, каторую яны ссуць, як кусьлівыя мухі. У вульлі для ўваходу ёсьць зробленая трубачка з воску, сярэдзіна каторай

раўняецца таўсьціні дуўкі пяра. Гнёзды іх звычайна знаходзяцца ў дзюплах дрэў.

*Кар.*

### 3,200,000 вылетаў.

Абраз вялічыні працы, якую пчолы прысьвячаюць пры апыляньні кветкаў могуць даць гэтакія аблічэньні.

Сярэдні рой вясною і летам на гадзіну высылае ў поле 4000 работніц; пры 10 гадзіннай працы дасьць гэта 40000 вылетаў; праца трывае месяцамі: красавік, травень, червень і ліпень, гэта значыць 120 дзён (цыфра акругленая), аднімаем 46 дзён непагодных, у каторыя пчолы ня вылеталі, астаецца тады 80 дзён, што дае 3,200,000 вылетаў.

„Бартнік Постэнповы".

*М.*

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

### Паважаная Рэдакцыя!

Я заўважыў, што працай і навукай чалавек можа што небудзь зрабіць, да чаго небудзь дайсьці ці ў гадоўлі лекарскіх зёлак, ці ў пчалярстве.

Вы пытаецеся ў меня про гадоўлю дзеванны. У 1935 годзе я пасадзіў 1000 аднагадовых каліў рассады дзеванны на 20 квадратовых мэтрах добрай зямлі з пад лёну. Спачатку чэрвеня я і мае дзеткі кожны дзень зьбіралі кветкі дзеванны, сушылі і дзаржалі ў сухім месцы. Назьбіралі мы 15 кіляграмаў, прыгожых, сухіх, яснажоўтых кветак. Пчолы адведывалі дзеванну вельмі ахвотна, зьбіраючы на ей мёд і пяргу.

Яшчэ пытаецеся пра шаўкаўніцтва?

У 1928 годзе я прачытаў часапіс аб саджэньні белай морвы ды вясной выпісаў часеньня з Мілянувка і пасеяў. Людзі з мяне сьмяяліся, што і расьці ня будзе і шоўку ня ўбачу, але я не зьвяртаючы ніякае ўвагі на людзкую гутарку, рабіў, толькі прачытаў адну брашурку аб шаўканіцтве ды большую кніжку. Пасьля трох гадоў выпісаў я 400 штук яечак шаўкапрада і першы раз правеў практыку. Добрыя вышлі вопрадні. 30 дзён я іх гадаваў, 10 дзён яны снавалі. Пасьля зьняў, забіў над парай, высушыў на падстрэшшы ў правеўным месцы і ў верасьні пераслаў у Мілянувэк. Вопрадняў было 210 грам. За іх я атрымаў 4 зл. 20 гр. Потым рассадзіў морву і чакаю, каб большая вырасла, каб больш было лісьця на корм шаўкапрадаў. У 1934 і 35 я яшчэ рабіў спробы і пакінуў яечкі шаўкапрада, каб ня трэба было больш купляць. Цяпер я іх перахоўваю на свой уласны ўжытак, на колькі мне будуць патрэбны і на колькі ў мяне хопіць месца, каб я мог іх пракарміць.

З пашанай *Балашка Бігун.*

Новы-Яжаў, ваяв Львоўскае.

# З уласнай практыкі.

## Як выгнаць мурашак з вульля.

Нярэдка пчаляру прыходзіцца спатыкаць у вульлі мурашак, якія спачатку знаходзяцца там паадзіночна, а калі іх стуль ня выгнаць, то яны надобра там загнязьдзяцца. Дастаюцца мурашкі ў вулей прыпадкова, вандруючы ўсюды і шукаючы сабе пажывы. Калі адна з такіх вандроўных мурашак зойдзе ў вулей і абнюхае мёд, то яна зараз-жа варочаецца ў сваё гняздо і адтуль прыводзіць яшчэ некалькі разьведчыкаў. Разьведчыкі абысківаюць усе хады, заглядаюць ува ўсе дзіркі, стараючыся дабрацца да мёду, што ім часам і ўдаецца. Знашоўшы мёд мурашкі паяўляюцца ў вульлі цэлымі масамі і прыводзяць з сабой сваю матку, якая пачынае класці яйкі.

Сваей прысутнасьцю ў вульлі мурашкі страшэнна непакоюць пчол, што пчолам, любячым спакой і цішыню, вельмі шкодзіць

Як-жа вывясьці мурашак з вульля?

Перадусім трэба, па магчымасьці, вылавіць іх на версе рамак (у сярэдзіну ня лезуць), зьнішчыць заложаныя яйкі ды ня пусьціць іх больш у вульлей. Дарогаю ў вульлей базумоўна зьяўляюцца для іх ножкі вульля, па якіх яны і лазяць. Дзеля гэтага заднія ножкі вульля, можна вымазаць дзёгцям, газай, тэрпэтынай, рэдкай яловай смалой, або якой іншай ліпкай, нявысыхаючай ці смярдзючай масай. Пярэднія-ж — трэба абсыпаць навокал попелам, якого мурашкі непераносяць.

Пасыпаць попелам трэба кожны дзень, бо мурашкі, хочучы папасьці ў вульлей, заносяць попел чым небудзь, робяць праз яго дарожкі і па гэтых дарожках, а пасьля праз вылет пападаюць у вульлей. Абавязкава трэба нанова пасыпаць попелам пасьля кожнага дажджу.

*Ул. Казак.*

---

# Усячына.

## Пчала на ўслугах Марса.

Агульна ведама, што пчала, шукаючы нэктару можа праляцець некалькі кілямэтраў і набраўшы пылку і мёду вярнуцца назад у свой вульлей.

Гэтыя здольнасьці пчалы адзін нямецкі пчаляр здумаў выкарыстаць дзеля ваенных мэтаў і дайшоў да перакананьня, што можа яна аддаць вялікія ўслугі ў службе сувязі, асабліва ў вайне пазыцыйнай, калі пад ураганным агнём непрыяцеля ніякая жывая істота праляцець ня можа, ды мэханічныя апараты, з прычыны парваньня тэлеграфічнага дроту і г. д., не даюць ніякае гарантыі.

Пчолы трымаліся-б ў першай лініі акопаў і ў патрэбе выпушчаліся, а яны вярталіся-б у свае вульлі, знаходзячыяся на тылох арміі. Зразумелая рэч, прыгатаваньне маленькіх, — мініятурных рапартаў, як гэта рабіў той пчаляр ў акопным жыцьці немагчыма, аднак значаных адпаведнымі колерамі, паводле спецыяльнага шрыфта, у разе патрэбы па чарзе можна пушчаць.

Маленькая істотка ня можа быць заўважана непрыяцельскімі абсэрватарамі спакойна паляціць на тылы і прынясе на сваіх крыльлях весткі з першай лініі.

## Штучная воўна.

У Італіі знойдзены спосаб вырабу штучнае воўны. Вырабляец-

Б 05/1593
Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна

ца яна з г. зв. казэіну, які атрымліваецца пры пераробцы малака, перагнанага праз цэнтрыфугу. Пры помачы хімічных сродкаў казэін робіцца мяккім і цягучым, а тады адумыснымі машынамі выраблюющца з яго ніткі. Тканіна з гэтых ніпак мала чым розьніцца ад тканіны з праўдзівае воўны.

(„Tygodnik Rolniczy").

## Цуды прыроды.

У Аўстраліі забаронена прывазіць з чужых краёў на расплод розную жывёлу і насеньне расьлінаў. За прывязеньне самай невялікай колькасьці якого небудзь насеньня вызначаецца вялікая грашовая кара або некалькі гадоў турмы. Гэтая забор на мае сваю гісторыю. Калі з Эўропы прывязьлі ў Аўстралію на расплод трусоў, дык ніхто ня думаў, што праз некалькі гадоў прыдзецца весьці з імі праўдзівую вайну. У Аўстраліі трусы знайшлі гэтакія спрыяючыя варункі сабе, што пачалі пладзіцца так масава, і ў хуткім часе прышлося чалавеку весьці з імі праўдзівую вайну, ужываючы нават кулямётаў і атрутных газаў. Для расьлін прырода Аўстраліі аказалася яшчэ больш спрыяючай. Аграст прывезены з Эўропы ў паўднёвую Аустралію разросься гэтак, што хутка заліў мільёны маргоў і зараз няма нават магчымасьці яго выкарчаваць. Сорак гадоў назад адзін жыхар Новае Зэляндыі атрымаў з Галяндыі насеньне пятрушкі. Нашай маленечкай пятрушцы гэтак падабаліся клімат і глеба Аўстраліі, што яна вырасла да вялічыні пальмы, а яе лісьцё і карэньня зрабіліся гэтакімі вялікімі, што ўжо не гадзіліся на варыва. Пятрушка хутка заняла велізарныя прасторы і выдана ўжо мільёны фунтаў на ачышчэньне ад яе палёў.

(Паводле Г. К. Ч.)

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Хто ў 1938 годзе ўнёс больш чым 2 зл. 50 гр., надвышка будзе залічана на сёлетні 1936 год.

**Гр. П. Гапанёнку.** — Просім паведаміць, як стаіць у Вас справа з дзічкамі? Ці добра гацаваліся і ці гатовыя дзеля прадажы.

**Гр. Аляксандру Казека.** У 1935 годзе ад чэрвеня да кастрычніка ўключна „Б. Борць" ня выходзіла. 2 зл. 50 гр. залічаны на 1936 год.

**Гр. Яну Восю.** Пробны № высылаем. Варункі падпіскі знойдзеце ў гэтым №.

**Гр Аляксею Сімаку.** Пробны нумар высылаем.

**Гр. Антону Міхасёнку.** У леташнім годзе „В. Борць" выходзіла з перарывамі, дзеля таго Вы яе неакуратна атрымлівалі — Цяпер маем надзею, што пры добрай волі нашых чытачоў будзе „В. Б" выходзіць акуратна. 2 з. 50 гр. ад Вас атрымалі. Дзякуем.

**Гр. І. Балушцы-Бігуну.** Дзякуем за інфармацыі аб Вашай гаспадарцы. Зьмяшчаем. Вялікая шкада, што Вы гэтак змарнавалі шчэпку? нам. Ніколі ня трэба сьпяшацца і траціць надзею. Падрабязны адказ дамо лістоўна.

**Гр. Яну Канстанчуку.** Пробны № „В. Борці высылаем. Брашуры аб зборы лекарскіх зёлак ня маем. Ёсьць толькі курс аб зборы і сушцы зёлак, які можна выпісаць; каштуе ўсяго 2 злоты.

**Беларускаму Загранічнаму Архіву,** № 6 і 7, якіх Вам нехапае пасылам. Сёлета будзем высылаць „Бел. Борць" акуратна, у меру яе выхаду.

---

Рэдакцыя „Беларускай Борці"
прапануе сваім чытачам пасярэдніцтва ў куплі добрага насеньня АГАРОДНІНЫ і мёдадайных расьлін
Цэньнікі высылаюцца
на жаданьне бясплатна.

# ЗАПІСВАЙЦЕСЯ

**на Беларускія Агульнаадукацыйныя Курсы, якія вядзе ад 1-га лютага 1936 году Віленскі Цэнтральны Гурток Т-ва Беларускае Школы.**

Курсы будуць абымаць наступныя прадметы:

1) Гісторыю Беларусі—10 лекцыяў.

2) Агульную географію Эўропы і пазаэўрапэйскіх краін — 10 лекцыяў.

3) Гэографію Беларусі — 5 лекцыяў.

4) Палітычную эканомію (асновы грамадзкай гаспадаркі) — 5 лекцыяў.

5) Гісторыю Беларускай літэратуры — 10 лекцыяў.

6) Космографію (навука аб зорах і плянэтах)—5 лекцыяў.

7) Натуральную гісторыю зямлі (паверхня, слаі зямлі і іх паўставаньне, расьлінны і зьвярыны сьвет і іхняе разьвіцьцё).

8) Гісторыя культуры і цывілізацыі.

Курсы пачынаючы ад 1936 году будуць вясьціся стала кожную зіму ад 1 лістапада да 31 красавіка. У сёлетнюю зіму курсы пачнуцца 1-га лютага, будуць трываць тры месяцы (да 31 красавіка) і абымуць толькі чатыры першыя прадметы:

1) Гісторыю Беларусі, 2) Агульную Гэографію, 3) Гэографію Беларусі і 4) Палітычную эканомію.

МЭТА КУРСАЎ: даць і паглыбіць агульную веду аб бацькаўшчыне і сьвеце, павялічыць гэтым самым грамадзкую вартасьць адзінак, карыстаючых з курсаў.

Лекцыі будуць уложаны папулярна, даступна, каб з курсаў мог карыстаць кожны, хто ўмее чытаць па беларуску.

Лекцыі будуць друкавацца на павелячы. Курсы будуць вясьціся бясплатна. Толькі на пакрыцьцё коштаў (папера, пошта, кошты друку і інш.) трэба прысылаць 2 зл месячна, значыць 6 зл. у тры месячныя раты за цэлы сёлетні курс (30 лекцыяў).

Мы ведаем, што нават гэтая невялікая плата на пакрыцьцё коштаў, будзе ў цяперашнія цяжкія часы многім не пад сілу. Каб гэтаму зарадзіць і зрабіць Курсы даступнымі для ўсіх, заклікаем да выпісваньня лекцыяў у складчыну. Асабліва карыснымі будуць курсы для існуючых гурткоў ТБШ і іншых культ.-асьветных арганізацыяў у працы пашырэньня веды сваіх сяброў.

Лекцыі будуць рассылацца поштай больш меньш па дзьве на тыдзень. Запісываючыся на курсы трэба прыслаць плату за першы месяц і наступныя інфармацыі аб сваёй асобе: 1) Імя і прозьвішча, 2) Мейсца і год нараджэньня, 3) Прафэсія (чым займаецца), 4) Дакладны адрас. Калі лекцыі выпісваюцца цэлай групай, дык трэба падаць дакладныя дадзэныя аб усіх асобах з групы і на каго слаць лекцыі.

ГРАМАДЗЯНЕ! Помніце, што веда, гэта магутнае аружжа ў змаганьні за лепшую будучыню, і таму выкарыстайце вольны час, які ёсьць зімой у вёсцы, каб праз Курсы здабыць і пашырыць сваю веду.

Нам, беларусам, тым больш трэба здабываць веду саматугам, бо родная школа, у якой кожны сын культурнага народу дастае гэтую веду,—для нас тымчасам недаступная роскаш. Помніце, што ніхто нам не award паможа, калі мы самі сабе не паможам. Часовы адрас для карэспандэнцыяў: Вільня, вул. Савіч № 12, кв. 4, Курсы. Віктар Войтэнька.

Вільня ў сьнежні 1935 году.

**Урад Віленскага Цэнтральнага Гуртка.**

Выдавец-Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.